// Самапомач

Беларускі папулярна-гаспадарскі часапіс.

№ 1 (54).

Год VI.

Вільня.

Люты, 1937 г.

РЭДАКЦЫЯ:
Вільня, Полацкая вул. № 9—4.
Рэдактар прыймае ад гадз. 9 да 11 ран.

АДМІНІСТРАЦЫЯ
Вільня, Завальная № 1.

# „Самапомач“ павінна жыць далей!

Праводжаны ў нас абмен думак аб рэформе нашага часапісу можам урэшце лічыць за закончаны. Падсумоўваючы ўсе галасы і пісьмы пісаныя да нас у гэтай справе мусім сказаць адкрыта, што рэзультат аказаўся неспадзеўкай для нас самых: пераважная большасьць нашых Паважаных супрацоўнікаў, чытачоў і прыхільнікаў выказалася рашуча за няз, ываньнем з працай дагэтуль ужо выкананай і за расшырэньнем яе. Ні ў якім выпадку ня можна пры гэтым мяняць назову, да каторага ўжо чытачы прывыклі і каторы ўмяшчае ў сабе ўсё, што сягоньня нашаму чалавеку патрэбна: „самі сабе паможам — толькі дапамажэце перамагаць перашкоды!“— пішуць да нас у адзін голас.

Асабліва выразна стала гэта справа пасьля апублікаваньня праекту рэформы.*) Большасьць зацікаўленых толькі з гэтага праекту даведалася аб кірунку рэформы і выразіла сваё нязломнае жаданьне,

1. каб часапіс і на далей называўся „Самапомач,“

2. каб, не пакідаючы сачыць за розьвіткам коопэрацыі, тымчасам на першае месца высунуць агульную земляробскую гаспадарку,

3. каб аддзел гаспадарскі не аграніўаўся самымі толькі распраўамі і радамі тэхнічнымі, але каб зьвяртаў больш як дагэтуль увагі на тэмы аграрнай палітыкі і земляробскай эканомікі,

4. каб пры помачы спэцыяльных выдавецтваў пастараўся аб пляновае фаховае прыгатаваньне падрастаючай земляробскай моладзі да працы ў гаспадарцы,

5. каб меў на ўвеце патрэбу сарганізаваньня дарадчага бюра ва ўсіх гаспадарскіх справах, уключна да інструкторыяту вядзеньня упрошчанай земляробскай бугальтэрыі,

6. каб для беларускага чытача, які ня можа сабе пазволіць на люксус выпісваньня на раз аж некалькіх часапісаў, часапіс наш быў згушчаным інформатарам па крысе аб усім, што дзеецца на сьвеце, як гэта робяць польскія і інш. папулярна-гаспадарскія часапісы,

7. каб часапіс часьцей выходзіў.

Гэта ёсьць некалькі „з берагу ўзятых“ пажаданьняў з пісьмаў да нас і з беспасярэдніх гутарак.

Як іх правесьці ў жыцьцё?

Ня можна таіць, што дамаганьні нашых чытачоў сьведчыць аб іхняй дасьпеласьці да разуменьня таго, што ўкруг іх дзеіцца. Гэтыя-ж дамаганьні сьведчаць і аб тым, як хутка вырастае наш беларускі чытач з клешчаў пасьляваеннага агляданьня і шуканьня апекі. Уважаем гэта за бясспрэчны поступ, у будаваньні якога маем права бачыць і сваю скромную цагліну.

Усё гэта разам узятае цалком вырашае справу на будучыню ў прынцыпе. Калі-ж гаварыць аб тым, як гэту справу праводзіць у жыцьцё, дык сягоньня здаецца быць ясным адно: усе за раз зрабіць ня можна, трэба за гэта брацца паступова. А далей, гэта рэч ня самага толькі часапісу, але і яго-ных чытачоў. З прыплывам новых супрацоўнікаў можна будзе абслужыць усе высказаныя пажаданьні адносна способу рэдагаваньня. Найбольш-жа клапатлівым для нас сягоньня ёсьць вымога *часьцейшага выдаваньня часапісу*. На колькі й можна лічыць на дармовую ці блізу дармовую тымчасам працу пры рэдагаваньні часапісу, на гэтулькі ня можна ўскладаць на тую-ж рэдакцыю абавязку пакрываньня грашовых выдаткаў зьвязаных з друкам і рассылкай часапісу. На гэта патрэбны грошы і то не як абяцанка, але як гатоўка, бо за гатоўку толькі можна сягоньня купіць паперу, за гатоўку можна наняць работніка ў друкарні, гатоўкай трэба аплачваць пошту. А скуль-жа гэту гатоўку ўзяць?

Іншыя часапісы апіраюць сваё існаваньне на нейкіх арганізацыях, якім пасьля мусяць выслугоўвацца, яшчэ іншыя атрымоўвуюць усякія „запамогі“, за якія таксама бяруць забавязаньні.

Наш часапіс служыць мае толькі народу, ніякіх і ніскуль „запамогаў“ не дастане. Адзіная для яго мэта гэта служэньне свайму беларускаму чытачу і таму адзіная ў яго надзея падмогі — у форме падпіскі з боку гэтага-ж самага чытача. Гэтага прынцыпу трымалася „Самапомач“ дагэтуль, ім толькі выключна будзе трымацца і на будучыню, калі ей ставяцца вымаганьні часьцейшага выхаду ў сьвет.

Выпускаем і рассылаем гэты нумар як пробны. Справа часьцейшага выхаду часапісу на будучыню залежа ад самых чытачоў: *часапіс будзе выходзіць часьцей як раз на месяц толькі тады, калі кожны чытач зараз-жа вышле гадавую падпіску.*

Дзелячыся гэтымі думкамі з нашымі Паважанымі чытачамі і супрацоўнікамі, шчыра заклікаем іх да зразуменьня, што толькі сваімі сіламі здалеем мы разьвіваць і ўтрымліваць свой родны беларускі часапіс ды што чым больш будзем мець платных чытачоў, тым багацейшы (абшырнейшы) будзе наш часапіс і тым таней ён будзе нам каштаваць.

Дык усе да дружнай працы!

**Рэдакцыя.**

*) „Самапомач“ № 12, 1936 г.

**Хто ў адзіночку ці ў „пяцёрцы“ аплаце цэлагоднюю падпіску на „Самапомач“ не пазьней 1.IV. сёл., той акрамя газэты дастане йшчэ дарма „Беларускі Сялянскі Календар на 1937 г.“ (календар-кніжка). — На перасылку аднаго календара трэба прысласць 25 грашоў.**

# Праўда па старане Нарача.

Год з лішнім таму назад сталася голаснай справа Нарача, ці лепш сказаць — сялян з ваколічных беларускіх вёсак, якім новы закон аб рыбалоўстве з 7.III.32 г. забараняў лавіць рыбу ў гэтым возеры. Практычна гэта зводзілася да таго, што малазямельныя сяляне з ваколіц возера Нарач і суседняга возера Мястра трацілі адзіную ў іх магчымасьць пражыцьця.

Сытуацыя на месцы станавілася вельмі напружаная. У рэзультаце дружнага дамаганьня, Міністр Земляробства выняў урэшце вазёры Нарач і Мястра, спад абавязку г. зв. рыбацкіх абводаў. У зьвязку з гэтым ад 16.I.37 г. дазваляецца лавіць рыбу наднарачанскім сялянам у вазёрах Нарач і Мястра, з варункам невылаўліваньня рыбы дробнай: селявы і ліна — карацейшых 18 см., шчупака — карацейшага 28 см., краснапёркі — карацейшай 15 см. Вылоўліваць рыбу драбнейшую забаронена і ў выняткавых варунках дае на гэта дазвол віленскае ваяводзтва. Вылаўленую дробную рыбу можна прадаваць толькі ў тых мясцох, якія паказаны ў дазволе.

Наагул-жа да лаўленьня рыбы можна будзе ўжываць толькі сетак зарээстраваных у старастве ў Паставах. Сеткі гэткія мусяць мець вочкі, якія за мокра ня могуць быць меншымі за 25 мм., а ў кутлі (апошняй трэцяй часьці матні) сетак цягненых — найменш 20 мм.

Селяву забаронена лавіць у часе ад 15 кастрычніка да 31 сьнежня. Ад 1 мая да 15 чэрвеня забаронена ўжываць рыбацкай снасьці рухомай. Апрача таго ў кожную нядзелю, ад 6 гадз. рана да 8 гадз. веч. забаронена наагул лавіць рыбу йнакш, як толькі пры помачы ручной вуды.

# Калі-ж гэта кончыцца?

Калі й можна зразумець пачынаючага пісьменьніка, які часта любіць вяртацца „ў старыя часы“, то ня можна гэтага так лёгка даравацъ чалавеку такой меры, як В. Хмелецкі, які ў папулярнай кніжцы*), выданай за грошы Міністэрства Земляробства — а знача за грошы з падаткаў — і прызначанай у бібліятэкі арганізацыі „Przysposobienie Rolnicze“ між іншым гэтак даслоўна гавора аб стане земляробства ў Віленшчыне і наагул на землях заселеных беларусамі:

*„...здараюцца йшчэ „курныя хаты“, бяз комінаў. Да абрабляньня зямлі служыць старадаўны плуг, а ня рэдка і старасьвецкая саха, а так-жа радло і цэла драўляная барана... Трыпалёўка там яшчэ мае блізу агульнае застасаваньне. Трэцяя часьць зямлі ляжыць пад папарам нічым неабсееная... Канюшыны ня сеюць, бо ў трыпалёўцы няма для яе месца. Толькі ў некаторых скомасаваных гаспадарках уводзяць чырвоную канюшыну. Акопнінаў гадуюць мала. Для скаціны на зіму адзіны корм гэта салома й сена, пераважна кіслае; там-жа, дзе няма сенажацяў, салома бывае адзіным кормам для скаціны ўзімку...“*

Далей ідзе апісаньне гаспадарак на Паморры, у Пазнаншчыне і г. д. Натуральна, прадстаўляюцца яны чытачу як ідэал, да каторага ўсе павінны імкнуцца.

Вот-жа ў імя праўды мусім тут сьцьвердзіць два факты:

1. і ў карэннай Польшчы, пад самым Кракавам (так!), ваколіцы якога належаць да найбольш паступовых у земляробстве Польшчы, ёсьць (так!) курныя хаты, ды што

2. ніколі мы ня чулі, каб за навучаньне польскіх дзяцей роднай граматы хто-небудзь быў сягоньня караны, а з навучаньнем беларускіх дзяцей роднай беларускай граматы ў нас сяньня бывае ўсяляк („Шлях Моладзі“ № 1, 1937).

Дык ці-ж можа быць мова аб гаспадарскім поступе там, дзе гэтак цяжка здабыць родную грамату?

Дзеля гэтага маем да Паважанага аўтора В. Хмелецкага адну просьбу: пішучы на будучыню аб нашай гаспадарцы, ці лепш — гаворачы аб ейнай „прыкладнай адсталасьці“, мейце адвагу сказаць і чаму наша гаспадарка гэтак „адсталая“. Бяз гэтага паясьненьня чытач Вашых фахова цэнных кніжак ніколі не даведаецца праўды, а нас, беларусаў, Вы гэтым няслушна крыўдзіце. Няслушна — бо ў нашых варунках лепш не патрапіць гаспадарыць нават прывозны асаднік. Калі ня мелі магчымасьці дагэтуль пераканацца, дык зрабеце гэта неадкладна.

А. К.

*) Inż. W. Chmielecki: Poznaj swoje gospodarstwo. Варшава 1936.

# Ryby ŭzimku.

Žyćcio vodnych žyvatvoraŭ zdajecca čałavieku tajomnym. Žycharoŭ našych ciakučych i stajačych vodaŭ u ich ułasnym asiarodździ možam bačyć tolki zredka, u niekatorych ichnich mamentach žyćcia.

Kali ŭsio na zimu zasynaje, zapytajecca achvotnik pryrody: „Jak pieračakajuć zimu žyvatvory ŭ vodach, pakrytych u bolšaj čaści lodam?“

Najcikaviejšym dla čałavieka ŭ hetu paru źjaŭlajecca žyćcio ryby, jakuju ŭzimku čałaviek najbolš šukaje.

Havaryć ab rybach pad lodam možam tolki na padstavie ŭvahaŭ ab upłyvie nizkaje ciaplini na rybu.

Ryby źjaŭlajucca vodnymi chrybčakami (pazvanočnymi), z pieramiennaj ciaplinioj cieła... Heta znača, što cieła ichniaje pryjmaje zaŭsiady ciapliniu svajho asiarodździa, h. zn. vady. Kali vada ciapleje, dyk ciapleje pamału i cieła ryby, kali ž vakolnaja vada stanovicca ściudzianiejšaj, dyk adnačasna chaładzieje i rybiaje cieła. Adnak zdarajucca časam małyja adchileńni z pryčyny roznych žyćciovych prajavaŭ. Najlepš datasoŭvajecca da akružajučaj ciaplini cieła karpa, lina, akunia, sandača i ščupaka, cieła katorych nia vielmi prasyčana tukam i tamu dobra pravodzić ciapliniu. Kłustyja-ž ryby, jak łasoś, vuhar majuć ciapliniu vyšejšuju, čym vada, łasoś na 0.4—0.5°C, vuhar navat na 1—3°C. Małoje pavyšeńnie ciaplini rybiaha cieła ŭ paraŭnańni z vadoj zaleža ad ruchu i ad karmleńnia ryby. Hetak karp, karaś i lin mieli adnolkavuju ciapliniu z vadoj, kali nia ruchalisia; a kali pačali ruchacca, dyk ciaplinia ichniaha cieła padniałasia na 0.1—0.3°C. U bolš ruchavych pstruhoŭ usilenym rucham była padvyšana ciaplinia cieła na 0.1 i až da 3°C. Taksama spažyty korm i chvaroba padvyšajuć ciapliniu rybiaha cieła.

Z taho faktu, što vada pry 4°C najhuściejšaja, a znača i najciažejšaja, vypłyvaje, što heta ciaplinia panuje ŭ spakojnych stajačych vodach, zvyčajna ŭnizie, pry dnie. Ściudzianiejšaja-ž, ale radziejšaja, a tym samym i lahčejšaja vada znachodzicca ŭ słajoch vierchnich. Vodnyja žyvatvory, jak ryby, ciaplinia cieła katorych zaleža ad ciaplini vady, spłyvajuć u słai hłybiejšyja. U rekach i ručajoch, hdzie ciokam pieramiešanaja vada jość značna ściudzianiejšaja i hdzie ryby niachoćki zmušany da značniejšaha ruchu, ściahvajucca ŭ hłybokija toni i pastarońnija zalivy, złučanyja z hłaŭnym tokam. Tam ryby znachodziać supakoj i adnosna ciopłuju spodniuju vadu. Bačymo dziela taho, što časam padlodnyja zimovyja łovy ŭ toniach, zalivach i prystaniach dajuć niazvyčajnaje mnostva ryby. Taksama — u stavoch i vaziorach vyšukivajuć ryby hłybiny na pierazimavańnie. Tam znachodziać nia tolki miascy z mała pieramiennaj, vyšejšaj čym na płytkich miascoch ciaplinioj, ale j lepš byvajuć za-

# Што, як і калі рабіць?

*(Земляробская тэхніка).*



## На Грамніцы зімы палавіца.

Беднае было мінулае лета на пашу. Добры гаспадар павінен быў дзеля гэтага аблічыць кожную ахапку сена, кожную кіту саломы, кожны пуд абсыпкі ці нават мякіны ужо з восені, каб сваю жывіну не марыць голадам вясной. Хто гэтага не зрабіў увосені, хай канешна зробіць цяпер у поўзімы. Ня трэба дзеля гэтага важыць усё на вагу. Кожны ведае прыблізна, колькі сабраў вазоў сена, атавы, канюшыны, ведае так-жа, што сярэдні аднаконны воз сухой пашы важыць можа больш-менш 500 кілё (30 пудоў або 3 беркаўцы), далей ведае, колькі вазоў такой пашы лезе ў застаронак (у тарпу). Лёгка можна пасьля аблічыць, колькі пашы было скормлена і колькі яшчэ асталося.

Малы прыклад: у гаспадарцы ёсьць адзін конь і тры каровы. Корму ўсяго асталося больш-менш 40 мэтрычных цэнтнараў*) (250 пудоў або 25 беркаўцаў). Да канца зімовага кармленьня — ад Грамніц — чатыры месяцы (да канца мая), або 120 дзён. Падзелім увесь запас (4000 кілё) на 120 — атрымаем 33 кілё. Гэта на 4 штукі, а на адну (33:4) — 8 кілё. У гэтым выпадку, як бачым, запас якраз хопіць да канца году. — Калі-ж-бы аказалася, што пашы ня хопіць, дык цяпер-жа трэба яго дапоўніць ці то купляньнем ці заменай.

Разам з гэтым трэба сачыць і за тым, ці паша ня псуецца, асабліва калі яна была сабрана за сырая. Тым большую трэба на гэта зьвярнуць увагу, чым бліжэй да вясны і ні ў якім выпадку не даваць жывёле пашы стухлай ці запляснеўшай. А калі нейдзе такая паша натрапіцца, дык яе трэба старанна і да чыста выбраць і разлажыць у вольным правеўным, але сухім месцы, каб высахла і тады толькі малымі порцыямі дадаваць да пашы здаровай. Але і ў гэтым выпадку ня можна такой пашы даваць карове цельнай.

Яшчэ большую ўвагу трэба зварочваць на корм пашай з розных акопнінаў, асабліва акопнінаў зложаных у ямах, а так-жа на пашу запараваную. Акопніны зложаныя ў ямы бываюць часта забруджаныя мышамі і загніўшы, а запараваная паша можа быць вельмі небясьпечнай, калі ў жлабох астаюцца недаедкі, каторыя трэба пасьля кожнага кармленьня да чыста выбіраць і вычышчаць. Самыя ж жлабы трэба час-ад-часу старанна выбяліць вапнай.

Гэта ёсьць элемэнтарныя вымогі гадаваньня жывёлы, якія мусіць выконываць кожны, хто з гэтай гадоўлі хоча мець хоць якую карысьць.

С. Я—віч.

*) мэтр. цэнтнар мае 100 кілёграмаў.

## У справе неўраджаяў

Неўраджаі, якія блізу з году ў год паўтараюцца ў паўночных паветах Віленшчыны — Браслаўскі, Дзісенскі, Пастаўскі — ад пэўнага часу зьвярнулі на сябе ўвагу людзей навукі, перад усім людзей, што працуюць у земляробскім дасьледніцтве. Пытаньне гэта тым-больш цікавае, што глеба сама па сабе ў гэтых паветах далёка ня бедная, а ў кожным выпадку значна багацейшая, чым у суседняй Сьвянцяншчыне. І аднак неўраджаі тут здараюцца блізу рэгулярна кожны год.

Справай гэтых неўраджаяў зацікавіўся ўжо колькі год назад чалавек, здаецца, найбольш да гэтага пакліканы, бо кіраўнік дасьледчай станцыі ў Беразьвечы пад Глыбокім Л. Невяровіч. Сваімі колькагадовымі дасьледаваньнямі Л. Н—віч дзеліцца ў „Tyg. Rol.“ (№ 1-2/37), дзе даходзіць да наступных вывадаў:

Мокры год прыносіць тут голад людзям, а сухі — жывёле. Але ня ўсюды. Там, дзе грунты асушаныя, напр. ф. Зацішша, Беразьвеч і іншыя, у мокрыя і ў сухія гады неўраджаяў ня было. Галоўную прычыну спатыканых тут неўраджаяў аўтар бача ў нізкай культуры глебы. Дзеля гэтага, па думцы аўтара, трэба канешна думаць аб

biaśpiečany ad vymiarzańnia, jakoje zdarajecca na miascoch płytkich, asabliva ŭ paru silnych i doŭha tryvajučych marazoŭ... Dziela taho zimovyja stavy nia śmiejuć być mielkimi, ale musiać mieć svaje najhłybiejšyja miascy, prynamsia 1.5—2.0 m. hłybokija, kali chočam być peŭnyja, što nia vymierznuć a ryby ŭ ich nie zahinuć.

Bolšaje abnižeńnie ciaplini akružajučaj vady vyklikaje ŭ ryb bolšaje ci mienšaje abnižeńnie čynnaści najroźniejšych vorhanaŭ. U pieršuju čarhu datyča heta stravatraŭčych vorhanaŭ... Užo pry 10°C strava ŭ karpa prachodzić vielmi pamału, a pry 7°C karp pierastaje šukać stravy susim. Dziela hetaha jon užo pry 7°C stanovicca mała ruchavym, vyšukivaje sabie miesca ŭ hłybinie ci ŭ cišynie, hdzie ruchami svajho cieła vyhłybić u bahnie kruhavityja jamki, u katoryja źbirajecca bolš karpaŭ. Hetak biaz ruchu ležačy na brušku pieračakajuć jany u letarhičnym stanie paru nizkaje ciaplini, całuju zimu. Nia tolki ruch, ale j dychańnie dy bićcio serca karpa ŭ hetu paru vielmi niaznačnaje. Uletku za minutu karp dycnaje 30—60 razoŭ, serca bjecca 20—30 razoŭ, a pry 30°C za minutu jak dychańnie, tak i bićcio serca spadaje da 1—2 razoŭ.

Niekatoryja adnak karpavityja ryby i ŭzimku pad lodam nie zasynajuć i šukajučy stravy dajucca łavić na vudačku ŭ prołubkach.

Vielmi čynnyja (nie zasynajuć) uzimku i drosnyja ryby, jak ščupak, sandač i akuń, katoryja, choć i mienš jak uzimku, to adnak pažyrajuć šmat kormu i pad lodam. Ščupak vielmi čynny, asabliva pry kancy zimy, prad nerastam. Taksama nie zasynajuć na zimu i takija ryby, jakija majuć nerast uvosień i ŭzimku, jak łasosi, mareny, pstruhi. Cikava, što ŭ zimnych krajoch jość vielmi mała hatunkaŭ ryby, ale da ich jakraz naležać pradstaŭniki ryb ščupakavitych, akuniavitych i łasosievitych, katoryja značna aktyŭnyja i ŭ najnižejšych temperaturach. Najdalej na poŭnač zachodziać ryby łasosievityja, jakija, vidać, najlepš patrapiać pieratryvać niavyhody pad lodam.

Vielmi cikavy prykład zdolnaści pieratryvańnia nizkich „temperatur vykazvaje ščupakavitaja ryba *Dallila pectoralis*, jakaja žyvie ŭ ciakučych i ŭ stajačych vodach Alaski. Heta ryba na kolki tydniaŭ prosta zamiarzaje, a kali pamału adtaje, dyk uznoŭ adžyvaje. A viedamy i taki prykład, kali sabaka hłynuŭ hetkuju źmierzłuju rybu, a kali jaje za niadoŭha vykinuŭ, dyk ryba pakazvała znaki žyćcia. Praŭda, našyja ryby nia hetulki vytryvałyja proci źmiarzańnia, bo zamarožanyja adžyvajuć časam tolki vyniatkava.

Ryby ŭzimku pad lodam cierpiać nia tolki ad chaładu, ale i ad niedachopu tlonu, asabliva ŭ hłybiniach (toniach), vaziorach i stavoch. U vadu, jak viedama, dastajecca tlon abo prosta z pavietra, asabliva kali hetu vadu praviavaje viecier, abo čynnaściu ŭ vadzie rastučych raślin, jak vyšejšych, tak i samych drobnych. Hetyja zialonyja rašliny pryjmajuć vuhlekisły haz, katory pry pomačy peŭnaj siły śviatła pierapracoŭvujuć i vydajuć u vadu tlon. Hetym pa 1-je.

падняцьці гэтай культуры гэткімі спосабамі:

1. Весьці далей хутарызацыю.

2. Ускорыць г. зв. аснаўную мэліорацыю (урэгуляваньне рэчак і ручаёў), якая была-б панукай для самых гаспадароў праводзіць мэліорацыю (асушку) поўную пры помачы адкрытых равоў ці дрэнаў.

3. На ўсіх ужытковых грунтох, а асабліва на вязкіх гляёх араць у вузкія 3—4 мэтравыя загоны з перагонамі для адвядзеньня лішняй вады, якую ня можна трымаць ня толькі на азіміне, але і на ярыне а нават на сенажацях і пасьбішчах.

4. Прапагаваць пры помачы танных крэдытаў ужываньне прынамся культыватара, валачыла і валка-кальчаткі.

5. Паднаць культуру сенажацяў і пасьбішчаў, якія пасярэдна падыймуць урэджайнасьць ароміны.

6. Заводзіць плыткае ўзорываньне аржышча зараз жа за сярпом і канешна заворываць усе аржышчы на зіму. Зімовая ворка павінна быць глыбокай, але ня можна даставаць за шмат зямлі дзікой. На вязкіх грунтох трэба стасаваць зімовую ворку з паглыбляньнікам.

7. Ня сьцягіваць вясьнянага абрабляньня глебы; не чакаць аж пакуль усё поле высахне, а выходзіць з валачылам і бараной як толькі абсохнуць паасобныя праталіны: на даліны прыйдзе чарга пазьней.

8. Вывезены гной ня трымаць на кучках, але чым хутчэй яго растрэсьці і заараць. Глей і гліна вельмі ўдзячны за гнаеньне паверсе кампостам. Пашыраць кампаставаньне торфу.

9. Не пазьніцца з вясьнянай сяўбой. Не пачынаць ад саджэньня бульбы, але ад яравой пшаніцы ці жыта, пасьля сеяць авёс, лён, стручковыя, і кончыць бульбай. Асабліва рана трэба сеяць аўсы грубазернавыя, позна дасьпяваючыя аўсы. Рана трэба сеяць і там, дзе ўжываюцца штучныя гнаі.

10. На грунтох добра ўгноеных сеяць на зялёную пашу па аржышчы зразу за сярпом, пакуль збожжа йшчэ сохне ў копках: віку, пялюшку, ячмень, гарчыцу, бобік, сонешнік, а ў лён усяваць морхву. На бяднейшых грунтох сеяць лубін, пялюшку, грачыху — на зялёны гной, а часткова і на зялёную пашу.

11. На грунтох гляістых і глістых агранічыць саджэньне бульбы і садзіць там больш кармовыя буракі і морхву. Акрамя таго пашыраць засевы люцэрны, бобіку, сонешніку і конскага зуба (кукуруза) як пашу для жывёлы, а бобу й фасолі — як пажыву для чалавека.

12. У севазвароце пільнаваць, каб чаргаваліся між сабой расьліны плытка і глыбака карэнячыяся: кожная з такіх расьлін сьсе спажыву з розных пластоў зямлі і ня вынішчае яе.

13. Усюды там, дзе лепшая глеба, пашырыць засеў пшаніцы, коштам жыта: пшаніца лепш вытрымлівае хваробу сьнежнай плесьні (цьвіль). Проці плесьні азімінаў трэба кожнае сяўбовае насеньне байцаваць.

— Ч.

## Літасьць, якая аплачваецца.

Ня ведама йшчэ, якія штукі пакажа нам сёлетняя зіма. Але й падчас нядаўніх маразоў у другой палове м ца студня не адзін навочна праканаўся, колькі загінула ад сьцюжы карысных для чалавека птушак, якія вясной і ўлетку бароняць сад і гарод ад такіх злосных шкоднікаў, як мшыцы, гусьвіцы, хрушчы і ім пад. Але гэтага ўжо ня вернеш. Тымбольшай дзеля таго трэба апекі над тымі птушкамі, якія дагэтуль яшчэ пературывалі, а якім і надалей пагражае небясьпека двоякая: мароз і сьнег.

Мароз пагражае гэткім дробным птушкам, як сікора, дравасечка (кавалік), і нават наш шэры верабей. Усе яны, ня маючы схову прад сьцюжаю, гінуць, асабліва калі церпяць дакучлівы голад. А небясьпека голаду для дробных пераважна птушак узімку тым страшнейшая, чым грубейшая сьнегавая пакрыўка спавівае нашу зямлю. Дагэтуль, праўда, у большасьці нашага Краю сьнегу ня так ужо шмат, але ўсё-ж досыць на тое, каб прыкрыць дробныя выцерушаныя зярняткі featured рознага пустазельля й збожжа, якімі толькі гэтыя птушачкі ўзімку й могуць карміцца.

Ясная згэтуль небясьпека голаду для гэтых людзкіх прыяцеляў, каторых чалавек, у сваім собскім інтарэсе, павінен цяпер падтрымаць. Вялікіх выдаткаў на гэта ня трэба. Хопіць, калі час ад часу высыпаць нейдзе за ветрам жменю пасьлядзяў ці нават мякіны, крошак хлеба, пакрышаную бульбіну і г. д.

adbirajecca ad vady vuhlekisły haz, što vytvarajecca dychańniem vodnych arhanizmaŭ dy hnićciom admieršych arhanizmaŭ, a pa 2-je — heta-ž vada ŭzbahačvajecca na tlon. Uzimku, kali soniečnyja pramieńni davoli kosyja, słabyja na sile i kali sonіešnaje śviatło śviecić na ziamli vielmi koratka, choć raśliny stała dychajuć i spatrabujuć tlon, raśliny padvodnyja vyrablajuć hetaha ž tlonu vielmi mała A što-ž havaryć, kali vada pakryjecca lodam... jaki nie pazvalaje narmalna pranikać tlonu z pavietra, adnačasna značna hłytaje sonіečnyja pramieńni, tak što siła śviatła pad lodam, uzimku i biez taho vielmi nizkaja, jašče bolš abnižajecca. Heta pranikańnie pramieńniaŭ śviatła ŭ vadu moža jšče bolš abnižycca, kali lod pakryjecca śniaham. Tady vytvarańnie tlonu abnižycca jšče bolš, a navat i susim astanovicca.

U takich varunkach pry daŭžej tryvajučaj zimie bačym, što ŭ vakolicy prołubak blizka pad lodam źjaŭlajucca jak drobnyja žyvatvory, tak i ryby... Pryčynaj hetaha jość niedastatak tlonu ŭ spodnich słajoch vady, hdzie ryby „złožany,“ bo tam z pryčyny ŭspomnienaha ŭžo hnićcia arhaničnych cieł i dychańnia ryb najbolš spatrabujecca tlon. Ad nadbytku vuhlekisłaha hazu i niedastatku tlonu asłablenyja blednyja źvierchu ryby źjaŭlajucca pry prołubkach, šukajučy tam tlonu Pry bolšym marozie šmat ryb u takim vypadku prymiarzaje da lodu i hetak zdarajucca katastrofy cełych stavoŭ. Adzinaja abarona — upuścić u staŭ krychu bahataj na tlon vady z ručaja, vypuskajučy adnačasna z stavu spodni słoj vady. Samaha-ž tolki prasiakańnia ŭ lodzie prołubak mała: jany tolki vietrajuć — vyvodziać z dna hnilnyja hazy. I dziela hetaha pravietryvańnia treba ŭ lodzie prasiakać prołubki.

Taksama padyjmajucca ryby z dna pad lod i tam, dzie ich niepakojać stuki siakier rubajučych lod, abo šum vazinialnikaŭ na kańkoch, asabliva na stavoch płytkich...

Ryba ŭ stavie praz doŭhi čas pakrytym lodam z niedastatku tlonu słabieje i tamu kiepska vytrymlivaje zaraznyja chvaroby, šmat zarodkaŭ katorych znachodzicca ŭ bahnie.

U rečkach-ža dla ryby jość niebiaśpieka z hnićcia raskładnych matarjałaŭ, z haradzkich i fabryčnych adpadkaŭ. Lod tut nie pazvalaje škodnym hazam vychadzić i akiślać vadu, tlon katoraj skarystany pry hnićci.

Jak bačym, ryby pad lodam majuć rozna źnižanuju žyćciovuju čynnaść, bolš-mienš zapadajučy ŭ zimovuju śpiačku, katoraja časam pryvodzić i da vialikich katastrofaŭ.

Prof. Dr. K. Schäferna

*„Ryb. Vest.“*

Толькі й тут найлепшае жаданьне чалавека можа быць няраз безкарысным, а нават і небясьпечным для птушкі. Безкарысным будзе яно тады, калі яго засьнежа сьнег, а небясьпечным — калі падсыпаная падкормка будзе даступная для такіх непрыяцеляў малых птушак, як каты.



Будка для падкормкі птушак.

Каб падкормку не засыпаў сьнег і каб птушкам не гразіў кот, трэба канешна не пашкадаваць труду і прыгатаваць на падкормку асобную крытую будку, як гэта паказана на далучаным рысунку. Будку гэту трэба прымацаваць на загадзя ўбітым у зямлю калку.

Гэта ёсьць канешная работа пры апекаваньні над птушкамі, якія зімуюць у нас на месцы. Трэба аднак памятаць і аб тых птушках, якія на зімку ад нас адлятаюць у цёплыя краіны і якія з настаньнем цяплейшых дзён вясны пачнуць да нас вяртацца. Іх мусіць гаспадар таксама спатыкаць ветліва, стараючыся, каб як найбольш іх пасялілася ў беспасярэднім суседзтве, у гародах і садох.

На гэта патрэбны гнёзды, аб якіх ужо сягоньня трэба памятаць і аб якіх мы пастараемся напісаць у наступным нумары „Самапомачы".

В. Р.

## Развальненьне і клустасьць малака.

Пытаньне аб тым, што ўплывае на клустасьць каровяга малака і ці гэту клустасьць чалавек неяк можа збольшыць ці зьменшыць, — здаўна цікавіла гадаўцоў. Таму вельмі цікавым пакажацца рэзультат працы прыватнага дасьледчыка, ведамага гадаўца — практыка Ф. Блэндоўскага, які аб доўгай сваей працы напісаў у „Przegl. Hodowlanym" (№ 8-9, 1935 г.) між іншым гэта:

„Я сьцьвердзіў над усякі сумліў, што ва ўсіх выпадках нястраўнасьці з перакормліваньня пашамі сакавітымі і акопнінамі, або дамешкамі пашаў, што выклікаюць разстройства страватраўчага апарату, каровы давалі малако бяднейшае на клустасьць („радзейшае"). Затое пры такім укладзе пашы, пры якім страватраўчы працэс адбываўся нармальна і павольна, а выдзяляны кал быў гусьцейшы, — хоць малака атрымоўваў крыху менш, але яно мела значна вышэйшы працэнт клустасьці, а ў выніку фактычная прадукцыя малочнага туку (клустасьці) значна падыймалася.

„Гэткім спосабам, адначасна з падборам і насьледнасьцю, можам у шырокіх граніцах падняць прадукцыю туку (клустасьці) ў малацэ, стасуючы адпаведныя нормы пашы, г. зн. такія, пры каторых высьцеражэмся разстройства жалудка, запэўняем лепшае страўленьне, а выдзеліваны кал ня ёсьць гэтак плыўкі.

„Кармленьне кароў не павінна палягаць выключна на прапушчаньні праз каровін арганізм як можна больш прагавіта пажыранай пашы, але на адпаведным падборы яе, датасаваным да патрэбаў арганізму, і выраўнаньні стратаў, спрычыненых выдзяляньнем малака і то лічачыся заўсёды з тым, каб ня выклікаць разстройства страватраўчых ворганаў..."

Выходзіла б з гэтага, што на здароўе карове, а гаспадару на карысьць выйдзе толькі такая паша, пасьля каторай жывёла не дастане развальненьня. Ня можна дзеля таго даваць дойнай карове зашмат акопнін, асабліва маладых. Названы Блэндоўскі перасьцерагае прад надмерным скормліваньнем бульбы і буракоў, і радзіць больш скормліваць бручкі. Вельмі цэннай і здаровай пашай для дойных кароў зьяўляецца сухая паша аб'ёмістая, як гарохвіны, канюшына, а таксама іхняя мякіна. З зярністай пашы — мучная абсыпка, за выняткам жыта й пшаніцы, а вотрубаў пшанічных ня можна даваць больш, як 1/4 ўсей абсыпкі. Да паш, якія не дапускаюць да разстройства жалудка, залічаюцца: мука гарохвяная, ячменная, аўсяная, макух пальмовы, макух з зямнога гарэху, мякіна гарохавая і сэрадэлявая, а так-жа цьвет і абсыпка з сухой канюшыны. Разстройства страватраўчых ворганаў, а ўсьлед за гэтым і абніжэньне якасьці ўдою, выклікаюць: надмерныя порцыі пашаў сакавітых акопнін, пшанічных вотрубаў, далей — соя ды большыя порцыі макуха з рэпіцы і лёну.

М. Р.

*Kutok dla haspadyń.*

# Što možna zrabić z bulby.

## Zupa bulbianka.

Na 2 litry vady treba pałažyć: 1 morchvu, 1 piatrušku, kavałak salery i heta ŭsio pahatavać; paśla ŭkinuć 4 pakrojenyja bulby, pasalić da smaku i zapravić masłam, abo jakim kolečy tłuščam. Zaprava pryhataŭlajecca hetak: na patelni treba raspuścić łyžku tłušču ci masła, pałažyć krychu pakrojenaj cybuli i łyžku muki. Usio razam smažyć da rumianaści, a paśla pałažyć u zupu i jašče krychu pavaryć.

## Bliny ciažka straŭnyja.

Treba načyścić bulby, skolki treba, starkavać, pasalić i ŭsypać pšonnaj ci pryvarkovaj muki, paśla dobra vymiešać i tady piačy. Hety sposab zdajecca kožnaj haspadani znajomy. Hetkim sposabam piačecca jašče babka, tolki dadajucca skvarki. Pryhatavanaje ciesta kładziecca ŭ sudzinu i piačecca ŭ piečy, ci ŭ duchoŭcy.

## Bliny na draždžach.

Uziać 1/2 klh. pšonnaj ci pryvarkovaj muki, 1 deka droždžaŭ, 1/2 litra ciopłaj vady. Raźviaści droždžy, pasalić da smaku, usypać muku, usio dobra vymiešać i ŭłažyć 1 klh. tarkavanaj bulby. Paśla ŭsio razam źmiašać i pastavić, kab dobra padyjšło i tady treba piačy.

## Bulbianyja klocki.

Ačyścić i starkavać 2 klh. bulby, dobra vycisnuć, ułažyć treciuju čaść hatavanaj, dobra raściortaj bulby, dadać muki, pasalić da smaku, dobra vymiešać i tady rabić klocki. U siaredzinu pałažyć kručanaje miasa abo skvarki, ci sušanyja hryby. Hryby treba pierš zvaryć, paśla skryšyć, sasmažyć z cybulaj i tady nakładać u pryhatavanaje ciesta. Tady zahatavać vadu, pasalić i kidać klocki. Varyć treba, pakul nia vypłyvuć navierch, a jak zvaracca, pieracadzić, rasskvaryć skvarki i zalić, a paśla padać da stała.

## Bliny lohka straŭnyja.

Advaryć 1 klh. bulby z łupinami abo ačyščanaj, paśla skrucić u mašyncy, a kali niama mašynki, dyk staŭčy na kašu, kab nia było huzakoŭ. Paśla treba dadać muki pšonnaj 2—3 łyžki, krychu sody pitnoj, soli da smaku, 3 jajki, łyžku śmiatany. Žaŭtki treba addzialić i ŭłažyć u pryhatavanaje ciesta, a białki vybić na pienku, usio razam vymiešać i piačy na tłuščy, abo na maśle.

## Katlety z bulby.

Zvaryć 2 litry nieskrabanaj bulby, paśla ababrać, dobra staŭčy abo skrucić u mašyncy, dadać 2 jajki, krychu sody, soli da smaku, muki stolki, kolki voźmie heta ciesta, tady dobra vymiešać i rabić katlety. Piačy na tłuščy, abo na maśle. Da hetych katletaŭ vielmi pasuje sos z hryboŭ, jaki robicca hetak:

Biarecca 6 sušanych hryboŭ, dobra vymyvajucca, ulivajecca litr vady i varycca. Jak buduć hryby hatovy, dyk treba ich vyniać z hetaj vady i drobna pakryšyć. Paśla — pałažyć na patelniu łyžku tłušču, drobra pakrojenuju cybulu, hryby kryšacca taksama, usio dobra smažycca, dadajecca dobraja stałovaja łyžka muki i razam z

hetymi hrybami i cybulaj jašče druhi raz dobra smažycca. Tady ŭlivajecca navar, dzie hryby varylisia, solicca da smaku, dadajecca 1—2 łyžki śmiatany i jašče krychu varycca, i paśla padajecca da katletaŭ.

### Bliny na piency.

Askrabać i starkavać 2 litry bulby i zavaryć jaje 1-ej šklankaj małaka; paśla — usypać 2—3 stałovyja łyžki muki, 4 jajki, pasalić da smaku. Žaŭtki ŭłažyć adrazu ŭ tarkavanuju bulbu, białki-ž treba vybić na pienku, paśla razam vymiešać i piačy.

### Tort z bulbianoj muki.

30 deka cukru vycirajecca da biełaści z dziesiaćma žaŭtkami, usypajecca 30 deka bulbianoj muki (krachmału), sok z adnej cytryny, skurku cytrynovuju treba ściorci na tarcy i ŭcirać dalej praz poŭhadziny. Pad kaniec vymiešvajecca z pienkaj z vaśmi białkoŭ, ulivajecca ŭ formu vyšmaravanuju masłam, absypajecca mukoj i piačecca ŭ nieharačaj piečy praz hadzinu. A jak prastynie — lukrujecca.

Lukar robicca z białka i cukru. Adna łyžka cukru, adzin białok. Cukar treba miakka staŭčy, paśla raścirać z białkom tak, kab była heta masa hustaja i biełaja. Tady namazvajecca tort i stavicca ŭ ciopłuju pieč nanač, kab hety tort absoch.

M. Š.

## Дробныя рады.

### Каб сонца не спаліла.

Сонца ў лютым вельмі небясьпечнае для садовых дрэваў тым, што праменьні ягоныя ўдзень апальваюць кару дрэва, а ўночы яна мерзьне ад маразоў і трэскаецца. Гэта самае здараецца і з самым дрэвам. У шчылінах гэтых з настаньнем вясны загнеждзжываюцца розныя шкоднікі, якія нішчаць дрэва да шчэнту.

Дзеля гэтага трэба сьцерагчы дрэва ад раньняга вясьнянага сонца, белячы кару ягоную на камлі і на грубых суках вапнай, асабліва з паўдзённага боку. З гэтае-ж самае прычыны пры саджэньні дрэўцаў маладых трэба кол убіваць з паўдзённага боку.

### Добрае будаўлянае дрэва.

Каб дрэва будаўлянае было моцным, не заражалася грыбом, ня гніло, трэба з ім ад самага пачатку паступаць гэтак:

1. Браць на будоўлю дрэва сьпелае, якое ўжо закончыла свой рост, і якога тканкі згрубелі.

2. Сеч будаўлянае дрэва тольkі ў пару, калі ў ім няма руху сокаў, г. зн. больш-менш паміж 15 кастрычнікам і 15 сакавіком.

3. Дзеля таго што пад карой ссечанага дрэва найлепшыя варункі для разросту грыба і ўсякіх шкоднікаў дрэва, трэба яго па ссячэньні зараз-жа аскабліць.

4. Найлепш зробіць той, хто ссечанае дрэва зараз-жа вывязе з лесу, раз што: ўзімку дарога бывае найлепшая, часу болей, галоўнае — з настаньнем вясны дрэва ляжачае ў лесе вельмі хутка псуецца, заражаецца грыбам само і гэту заразу кругом пашырае. Гэта маючы на ўвазе, трэба за ўсякую цану вывезьці дрэва з лесу не пазьней канца месяца красавіка.

5. Ссечанае і аскрабанае дрэва трэба апілаваць пад канцом м-ца мая, бо пазьней з прычыны летняй гарачынія но, звычайна, хутка ссыхаецца і лопае.

6. Каго час ня нагліць з будовай, той мусіць гэтак прыгатаванае дрэва паволі сушыць, злажыўшы ў клеткі і прыкрыўшы саламянай стрэшкай, каб не даставаўся дождж і не сьвяціла проста сонца.

## ГАСПАДАРСКАЯ ХРОНІКА

**Закуп коняў для войска** на абшары Віленшчыны і Наваградчыны адбудзецца ў гэтакім парадку: 10 лютага—у Лідзе, 12 лютага — ў Вялейцы (старой), 16 лютага —ў Гародзеі, 17 і 18 лютага — у Ашмяне і 4 сакавіка—ў Вільні. Купляцца будуць выключна толькі легчаныя коні і кабылы, роджаныя ў 1931, 32 і 33 г., неспрацаваныя і добра ўтрыманыя.

Вымогі адносна тыпу і росту коняў і цэны за іх наступныя: кавалерыйскі I кат., росту ад 150 см., цана 900—3.000 зл., кавалерыйскі II кат. ад 146 см. — 700 - 900 зл., коннай артылерыі ад 153 см.— 900 —3.000 зл., цяжкай артылерыі ад 153 см.,—700—1.000 зл., лёгкай артылерыі ад 151 см. — 700—900 зл., абніжаны артылерыі ад 145 см.— 450—650 зл., малыя, краёвыя коні ад 132 см-—400—500 зл.

**Чаго й колькі ад нас вывезьлі ў 1936 годзе?** На падставе статыстычных дадзеных, галоўнымі прадуктамі вывозу з нашага Краю у прошлым 1936 годзе былі: дрэва, лён, скуры, тканіны ды „прадметы другарадныя,“ як: грыбы, зёлкі, шчаціна, косьці, агуркі, ягады, мёд, ракі і г. д. — У драўляным промысьле за мін. год вельмі ўвыдатніўся вываз дыкты (140 тыс. куб. м.) і сасновага будульцу. Віленская сосна на міжнародным рынку здабыла сабе пры гэтым даволі добрую марку: яе раўнююць да сосны фінскай і шведзкай. Лёну вывезена ад нас за мін. год 15 тыс. тон,*) грыбоў—450 000 кілеграмаў, 75.000 клг розных зёлак, да 15.000 000 штук ракоў, ды больш 70.000 штук сырых скур цялячых, лісічых і вявёрчых. Купцы цьвердзяць, што гандлёвыя абароты былі-б яшчэ большыя, калі-б пад канец мін. году не абясцэніліся грошы францускія, швайцарскія і італьянскія.

*) у тоне 1000 кілеграмаў.

**Хлопаты манаполю на серчыкі.** Высокая ў нас цана серчыкаў давяла да таго, што людзі шчапалі іх на часьці і наагул стараліся ўсялякімі спосабамі ашчаджаць. У рэзультаце пачуў гэта на сабе сам манаполь, рынак якога скорчыўся блізу на палавіну. Вот-жа цяпер, каб нанова сыскаць гэты рынак, каб прыцягнуць людзей да большага купляньня серчыкаў, манаполь думае абніжыць на іх цану, быццам да 5 грашоў за карабок.

**Яшчэ адна паліцыя.** Польскае Міністэрства Унутраных Спраў, разам з Міністэрствам Чыгунак, прыступіла да арганізаваньня гэтак званай дарожнай паліцыі, якая будзе пільнаваць выконываньне законных распараджэньняў аб язьдзе фурманак і ровэрыстаў на публічных дарогах і гасьцінцах. Асаблівую ўвагу пры гэтым будуць зьвяртаць на тое, каб фурманкі ня ехалі па забароненай старане дарогі, каб уночы мелі ліхтарню, каб абручы на абадох ня былі за вузкія, каб была добрая ўпраж, каб вазы ня былі за цяжкія і г. д.

Тымчасам дарожнай паліцыі будзе ўсяго 100 чалавек, якія ўжо ад 1 красавіка сёл. будуць разьяжджаць па дарогах на мотоцыклях. Кошт утрыманьня гэтай паліцыі ў гэтым годзе будзе роўна 850.000 злотаў.

**Што будзе сёлета ў Вільні на Казюка?** Тыя, хто бывалі ў Вільні апошнімі гадамі на Казюковым традыцыйным кірмашы, памятаюць хіба, што па вуліцах езьдзілі ў гэту пару вазы, на якіх паказываліся пасобныя мамэнты з жыцьця нашага Краю. Моладзь пры гэтым, апранутая „патутэйшаму,“ сьпявала між іншым і беларускія песьні. Гэткае публічнае паказваньне паасобных праяваў мясцовага жыцьця арганізавалі гэтак званыя рэгіоналістыя— людзі, якія міма ўсё ўважалі, што ня можна і ня трэба заціраць праўдзівага абліччa Краю. — Вот-жа сёлета мае быць зьмена і тут. Газэты падалі вестку, што ўжо адбылося супольнае паседжаньне Саюзу прапаганды турыстыкі, прадстаўнікоў мясцовых мастакоў, краезнаўцаў і прэсы. На паседжаньні гэтым між іншым *„нарэшце пастаноўлена сарваць з фальшывым настаўленьнем, якое прадстаўляла як віленскі рэгіяналізм розныя апавяданьні ў родзе „На Каляды“ і інш.“* („Dz. Wil.“ 7.II.37).

Замест рэгіянальных „беларускіх гісторыйкаў,“ чакаюць у Вільні на Казюка польскага балету Парнэля. І гэта хіба нешта знача.

**„Паўночны Кірмаш“** у Вільні сёлета мае быць арганізаваны ў м-цы ліпні. Асаблівая ўвага мае быць зьвернена на прадукты жывёлагадоўлі і на лён. Кірмаш сёлетні мае быць апошнім у Бэрнардынскім садзе; дальшыя кірмашы, як ведама, маюць быць арганізаваны на абшары захадняй часьці Вільні, за В. Пагулянкай.

**Парцэлянты паводле веравызнаньня за час ад 1919 да 1931 г.** Польская статыстыка падае, што на Палесьсі было ў гэтым часе 17.9С8 парцэлянтаў праваслаўных, гэта раўнялася 78 проц усіх мясцовых набыўцоў. У гэтым-жа часе на абшары гарадзенскага акружнога зямельнага ўраду праваслаўных набыўцоў было 18.812 (53.2 проц.), на абшары віленскага акружнога зямельнага ўраду—10.156 (31 4 проц), а на беластоцкім — 5.486 (18.6). Статыстыка гэта вельмі няпоўная: няма ў ёй зусім Наваградчыны, не паказана як вялікія надзелы і якой зямлі атрымоўвалі мясцовыя сяляне, у параўнаньні з прыезднымі асаднікамі, і колькі беззваротнай запамогі выдаў урад асаднікам, а колькі сялянам мясцовым.

**Лён і каноплі на чыгунцы.** Міністэрства чыгунак выдала анагдай загад, каб усе чыгуначныя ўстановы карысталіся вырабамі з лёну і канапель; паіменна, каб з краёвага і лёну і канапель былі вырабляныя: хусьце (бялізна) пасьцельнае і сталовае, усякія ручнікі і сьціркі, палатно, чахлы і плашчы для службы санітарнай, фіранкі, порт'еры, паясы, заслоны да лямпаў, сяньнікі і мяшкі, вата, флагі, аконныя ролеты, імпрэгнаваныя посьцелкі на шалашы і таварныя вагоны, сеткі да мячыкаў, работніцкая вопратка, вяроўкі. Гэта самае вымагаецца і ад арэнлатараў чыгуначных буфэтаў. — Усё гэта павінна павялічыць спрос на лён і каноплі і таму на гадаваньне гэтых расьлін трэба зьвярнуць пільную ўвагу.

**Наплыў у Баранавічы рамясьнікоў з Пазнані** Польскія газэты пішуць, што ў канцы мін. году прыехала ў Баранавічы група рамясьнікоў з Пазнані і працуе у новазбудаванай бэконярні, а так-жа самадзейна.

**З Віленскай Землеробскай Палаты.** На паседжаньні Віленскай Землеробскай Палаты 4.I.37 старшынёй выбраны палол Ул. Камінскі (асаднік), а віцэ-старшынёй — Эр. Еленеўскі.

**Цэны ў Вільні за кілё:** хлеб чорны—28 гр., шэры — 34 гр., масла — 3.40, мяса валовае — 130, сьвініна — 1.30, сланіна — 150. Літр малака 20 гр., яйкі 90 гр. за 10 штук.

# Што чуваць на сьвеце

## Судовы працэс 17-цёх.

У другой палове м-ца студня сёлета ў Маскве адбываўся суд над 17-цю б. кіраўнікамі бальшавіцкай рэвалюцыі, у тым ліку: Пятакоў, Радэк, Сакольнікаў і інш. 13 чалавек з падсудных засуджаны на сьмерць і расстраляны. Толькі 4 чалавекі спасярод падсудных: Радэк, Брылянт-Сакольнікаў, Арнольд і Строілаў асталіся тымчасам жывымі, але й то быццам на тое, каб быць сьведкамі абвінавачаньня ў працэсе Бухарына, Рыкава, Угланова і іншых, які мае быццам быць у м цы красавіку.

## Запасьлівы амбасадар.

У Маскву прыехаў новы амбасадар Паўн. Амэрыкі, Дэйвіс, які „на ўсякі выпадак“ прывёз з сабой цэлых 12 вагонаў харчоў.

## 4-я ўгодкі Гітлераўскай улады.

З прычыны 4-тых угодкаў улады Гітлер меў у нямецкім сойме 2-гадзінную прамову, у якой заявіў, што Нямеччына асвабадзілася ад цяжараў Вэрсальскага міру і не адваявала йшчэ толькі калёніяў У Лігу Народаў гатова ўвайсьці, але калі Ліга зрэформуецца. Аб нацыянальных меншасьцях — у іншых дзяржавах — заявіў, што „найвышэйшая пара, каб пачаць супроць іх справядлівую палітыку“.

## Нагарода Нобэль'а і Нямеччына.

З грошаў багача Нобэль'а вучоныя Норвэгіі вызначаюць што-год вялікую грашовую нагароду для тых, хто працуе для міру. Летась увосені была прызнана такая нагарода немцу Осецкаму, праціўніку Гітлера. Гэтым Нямеччына абразілася, забараніла сваім грамадзянам прыймаць на будучыню нагароды Нобэль'а наагул і ўстанавіла гэткую нагароду сваю собскую ў суме 100 тысяч марак.

## Англія мірыць Нямеччыну з Францыяй.

Англія ўзялася за цяжкую, а дагэтуль бясплодную роль — пагадзіць Нямеччыну з Францыяй. Цяжка ёй гэта аднак удаецца, бо Францыя бачыць сваю бясьпеку толькі ў зборных умовах, у павароце Нямеччыны ў Лігу Нацый і ў пагадненьні Нямеччыны з Саветамі і Чэхаславаччынай. На ўсё гэта Нямеччына тымчасам не згаджаецца.

## Не хацелі войска.

Японскі сойм пасварыўся з сваім урадам дзеля таго, што ў ім першую скрыпку йграе войска. Урад пайшоў у адстаўку. Але хутка аказалася, што бяз войска правіць краем у Японіі ня можна і таму ўтварыўся новы ўрад так-жа з учасьцем войска.

## Вугаль, жалеза, медзь і волава.

Дзеля эксплёатаваньня (выкарыстаньня) прыродных багацьцяў падбітай Абісыніі ўтварылася анагдай італьянска нямецкая супалка, якая будзе вывозіць з Абісыніі ейныя прыродныя багацьці, у першую чаргу: вугаль, жалеза, медзь, волава і іншыя.

## У Гішпаніі.

Хатняя вайна ў Гішпаніі цягнецца далей. Паўстанцы зянялі Малагу і, паводле іхніх словаў, абкружылі Мадрыт.

## Справа Гданска.

Апошні сход Рады Л. Народаў разглядаў апошнія падзеі ў Гданску. Польскі прадстаўнік, мін. загрспраў Бэк заявіў. што ў будучыні справы Гданскія будзе Польшч вырашаць беспасярэдна. Пры гэткай пастаноўцы спраў нова-вызначаны камісар Лігі Народаў у Гданск, галяндзкі адмірал дэ-Грэф зрокся сваіх абавязкаў. Што далей будзе,— няведама.

# У нас і ў суседзяў

*„Белпрэс“*. Выдавецтвы часапісаў: „Самапомач“, „Шлях Моладзі“ і „Chryścijanskaj Dumki“ дня 11 студня злучыліся ў выдавецкую супалку „Белпрэс“, дзеля сумеснага перамаганьня супольных труднасьцяў.

*Публічныя беларускія лекцыі.* 24 студня сёл. у залі пры Завальнай вул. 1, інж. А. Клімовіч прачытаў публічную лекцыю на тэму „Чэхаславаччына,— край і людзі,“ а 31 студня сёл. там-жа Кс. А. Станкевіч прачытаў такую-ж лекцыю на тэму „Магнушэўскі і беларускае нацыянальнае адраджэньне“.

*Беларускія паэты хварэюць.* Беларускі байкапісец і сатырык Я. Быліна даўжэйшы ўжо час хварэе на грудзі і 24 студня выехаў лячыцца ў Закапэнае. Паважна занямог так-жа на грудзі і М. Танк, які нядаўна вярнуўся з санаторыі ў Атвоцку.

*Канфіската.* Адміністрацыйныя ўлады м. Вільні сканфіскавалі анагдай рэшту кніжкі „Шум барвы“—М. Васілька, якая была выдана йшчэ ў 1929 г.

*Новыя беларускія кніжкі.* Ад пачатку 1937 г. выйшлі наступныя беларускія кніжкі: Хв. Ільляшэвіч: Захварбаваныя вершы, бач. 30, фарм. 8⁰, цана 1 зл.

М. Мілючанка: Грамадзкая і літаратурная дзейнасьць Цёткі, бач. 16, фарм. 8⁰, цана 25 гр.

Др. Ст. Грынкевіч: У братоў украінцаў, бач. 88, фарм. 8⁰, цана 50 гр.

Ks. Dr. J. Rešeć: Światyja, knižka I, bač. 112, farm. 8⁰, cana 75 hr.

*Беларусы ў гімназіях.* Паводле афіцыяльных статыстычных аблічэньняў на абшары Віленскай Школьнай Куратарыі (ваяводзтвы: Віленскае, Наваградзкае і часьць Беластоцкага) ў дзяржаўных гімназіях сёлета з агульнага ліку 8004 вучняў, беларусамі запісалася 496 чалавек, з гэтага ў самай Вільні 174 чалавекі. — У гэтым жа часе і на тым-жа абшары Куратарыі ў прыватных гімназіях з агульнага ліку 5615 вучняў, беларусамі запісаны 95 чалавек. Разам-жа ў гімназіях дзяржаўных і прыватных на абшары Віленскай Школьнай Куратарыі беларусамі запісаны 591 чалавек і „тутэйшымі“ (48+7=) 55 чалавек.

*Зачынілі.* Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры і Таварыства Беларускай Школы зачынены пастановай віленскага ваяводзтва з дня 22 студня сёлета.

*Тры разы забаранілі.* Пасьля прыпыненьня „Беларускай Крыніцы“ віленскія беларусы тры разы рабілі спробы выдаваньня кожны раз новай беларускай палітычнай газэты. За кожным разам аднак віленскае гарадзкое стараства выхад такой газэты забараняла, матывуючы такое становішча тым, што „ўжо зложана паведамленьне аб беларускім часапісе з падобным назовам“.

*Біскуп пазволіў, а падуладны забараніў.* Увосені мін. 1936 г. віленскія беларусы-каталікі арганізавалі „Каталіцкую Акцыю для Беларусаў“. Рабілася гэта з ведама і дазволу мясцовага арцыбіскупа Ялбжыкоўскага. І аднак... арганізатары „Катал. А. д. Б.“ дасталі анагдай з Інстытуту Катал. Акцыі паведамленьне, датаванае 4 г. м., што Каталіцкая Акцыя ня будзе зацьверджана.

*Забаранілі лекцыю Кс. А. Станкевіча.* У нядзелю 7 лютага Кс. рэдактар А. Станкевіч меўся прачытаць чарговую сваю публічную навуковую лекцыю на тэму: „Праф. М. Бяброўскі і беларускі адраджэнскі рух“. Віленскае гарадзкое старства аднак гэту лекцыю забараніла, тлумачачы гэта патрэбамі захаваньня публічнага супакою.

*Маладыя беларускія лекары.* 15 лютага сёл. на Віленскім Унівэрсытэце зложылі лекарскую прысягу два беларусы-сябры Беларускага Студэнцкага Саюзу: Віктар Войтэнка і Вітаўт Тумаш. Віншуем!

*Беларускія календары на 1937 г.* Адрыўныя беларускія календары на 1937 год ужо ўсе распраданы. Асталася толькі малая колькасьць „Беларускага Сялянскага Календара“, якія можна тымчасам купіць у кнігарні „Пагоня“ (Вільня, Завальная 1). Цана аднае кніжкі (без перасылкі) толькі 50 гр. Перасылка аднае кніжкі 25 грашоў. Заказы выконваюцца толькі за гатоўку.

*Рэвізія ў рэдакцыі „Wiadomości Białoruskie“.* 10 лютага сёл. сьледчыя ўлады м. Вільні рабілі рэвізію ў рэдакцыі інфармацыйна-прэсавага бюлетэню „Wiadomości Białoruskie“, у прыватным памешканьні рэдактара й выдаўца гэтага бюлетэню інж. А. Клімовіча і ў старшыні Б.Н.А. рэд. Я. Пазьняка. Забралі толькі павеляч да адбіваньня друкаў.

*Беларусы ў Варшаве.* Стараньнем беларускай калёніі ў Варшаве, дня 6 лютага 1937 г. ў залі Варшаўскай Фільгармоніі быў сарганізаваны беларускі вечар, прысьвячаны беларускай песьні й музыцы.

## У ЛІТОЎЦАЎ.

*10-я ўгодкі сьмерці Д-ра Басановіча.* Сёлета 16 лютага прыпадаюць 10-я ўгодкі сьмерці патрыярха літоўскага народнага адраджэньня Д-ра Басановіча, магіла якога знаходзіцца на могілках Роса ў Вільні.

*Выселілі П. Каразія.* Польскія адміністрацыйныя ўлады ў першых днях лютага сёл., выселілі з Польшчы ведамага літоўскага дзеяча П. Каразія.

## У ПАЛЯКОЎ.

*Кангрэсы „людоўцаў“ і пэпэсаў.* У палове м-ца студня сёлета ў Варшаве адбыўся вялікі кангрэс польскай сялянскай партыі, гэтак званых „людоўцаў“. Кангрэс выказаўся процiў камунізму, фашызму і дамагаўся скасаваньня лагеру ў Бярозы (Бэрэзы).

Ад 31 студня да 2 лютага ў Радоме адбыўся кангрэс Польскай партыі соцыялістычнай, ППС (пэпэс) Кангрэс гэты так-жа выказаўся за дэмакрацыю. Падзел зазначыўся ў адносінах да г. зв. народнага фронту: адны былі за шырокім „фронтам,“ ня выключаючы з яго і камуністаў, большасьць аднак на супрацоўніцтва ў „фронце“ з камуністамі не згадзілася. — Пэпэсы так-жа жадалі скасаваньня лагеру ў Бярозе.

## У УКРАІНЦАЎ.

*Вывезьлі ў Бярозу.* У Забалотаве паліцыя арыштавала ведамага украінскага паэта й маляра Ол. Гаврилюка й вывезла ў лагер у Бярозе.

*Памёр паэт Стефаник.* Пад канец мін. году, 7 сьнежня, памёр агульна цэнены украінскі паэт В. Стефаник, аўтор „Сіняй кніжачкі,“ „Каменнага Крыжа,“ „Дарогі,“ „Майго слова,“ „Зямлі“ і інш.

*БЕЛАРУСЫ! Шануйце сваё роднае друкаванае слова. Прачытаную „Самапомач“ ня нішчыце, але дайце прачытацьае сваім суседзям, знаёмым Прысылайце падпіску. Пішэце ў рэдакцыю — Вільня, Полацкая 4-9 аб сваім жыцьці і аб тым, што — па Вашаму — трэба было б у «Самапомач» дадаць, а што выкінуць ці папрaвіць. Падавайце выразна свой адрэс.*

ПАДПІСКА на „Самапомач“: да канца году — 3 зл., на паўгода 1 зл. 75 гр. Асобны нумар 30 грашоў. Пры выпісваньні на адзін адрэс прынамся 5-цёх экзэмпляроў — па 2 зл. за нумар на цэлы год (за 5 штук 10 зл.). Грошы перасылаць „разрахунковым пераказам“ (Конто: Wilno 40). Усякія пісьмы адрэсаваць у рэдакцыю: Вільня, Полацкая 9—4.

Рэдактар інж. А. КЛІМОВІЧ. Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны ў Вільні: Завальная 1. Выдавец: „БЕЛПРЭС“.